# Бультэр'еры

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Карлуша, нервова жэстыкулюючы рукамі, парываўся нешта запярэчыць, але тут паднялася Наташка:

— Спадары бізнесмены! Нам па барабану вашыя камерцыйныя размовы. Адкладзіце іх на заўтра. А сягоння давайце будзем піць і весяліцца... За нас, прыгожых! — узняла яна келіх. — Хай плача той, каму мы не дасталіся, хай здохне той, хто нас не захацеў!..

— Ха! Ха! Ха! — гучна, адрывіста зарагатаў Карлуша і з захапленнем запляскаў у далоні. — Ура-а!

Размова пайшла ў адпаведным кірунку. Мужчыны пакінулі ў спакоі свае кантракты, бабкі — расказвалі анекдоты, гаварылі дзяўчатам кампліменты, прапаноўвалі тосты на грані фола...

Захмялелая Ірына смяялася разам з усімі, смяялася нават тады, калі жарты былі даволі грубаватыя, двухсэнсоўныя. Мішэль глядзеў на яе адкрытым пажадлівым позіркам, а калі пайшлі танцаваць, стараўся быць побач, пакласці руку на плячо, абняць. Дзіўна, але яе гэта не абурала, а хутчэй забаўляла. Больш таго, Мішэль падаўся ёй нават даволі сімпатычным мужчынам.

Нарэшце наважыўся запрасіць Ірыну на танец і Карлуша. Ён ужо быў на добрым падпітку, таму музыкі не слухаў, спатыкаўся, наступаў ёй на ногі, і Ірына з палёгкай уздыхнула, калі танец скончыўся і Карлуша цырымонна пакланіўся:

— Данке шон.

Недзе а трэцяй гадзіне ночы пачалі разыходзіцца на начлег.

Да Ірыны падышла Люсі і холадна праказала:

— Хадземце, я пакажу вам вашу спальню.

Яны падняліся па шырокай, з балясінамі, лесвіцы на другі паверх, зайшлі ў невялічкі, са скошанай столлю пакойчык. Уключыўшы святло, Люсі ляніва паказала рукою на двухспальны, засланы імпартным пледам ложак:

— Гэта для вас з Карлам.

— Як з Карлам? — недаўменна пагглядзела на яе Ірына. — Чаму з Карлам?

— Так было сказана.

— Кім сказана? — ужо не хаваючы свайго абурэння, запытала Ірына.

Люсі грэбліва хмыкнула, павярнулася і пайшла з пакоя. Ірына памкнулася следам, але ў дзвярах ёй дарогу перагарадзіў Карлуша:

— Айн мамент...

Ірына хацела абысці яго, але немец аблапіў яе і стаў прыцiскаць да сцяны, цягнуцца да вуснаў.

— Пусці! — уперлася яна рукамі немцу ў грудзі. — Чуеш?

— Варум? Некарашо...

— Буду яшчэ ў цябе пытацца! — штурхнула яна Карлушу з усяе сілы, і той, адляцеўшы, паваліўся на ложак.

Ірына выскачыла ў калідор. Сэрца шалёна калацілася — не столькі ад гэтай сутычкі, колькі ад гневу і абурэння.

"Казёл праціўны! За сталом дык не бачыў, а тут палез... падкаціла жаданне... І гэтыя бугаі таксама добрыя! Вырашылі ўсё за мяне, нават не папытаўшыся..."



Яна імгненна працверазела. Пастаяўшы крыху, каб супакоіцца, спусцілася ўніз. Але ў зале нікога ўжо не было. Прыглушаныя галасы чуліся толькі на кухні. Ірына заглянула туды. Дзве незнаёмыя жанчыны мылі, парадкавалі посуд. Убачыўшы яе, ветліва, з гатоўнасцю запыталіся:

— Што-небудзь трэба?

— Не... не... — пакруціла яна галавою. — Я так, проста. Можна, я пасяджу тут, з вамі?

— З намі? — здзівіліся жанчыны. — А што, хіба вам...

— Не, не, усё ў парадку. І пакой ёсць, і ложак пасцелены. Мне нешта спаць расхацелася.

— Ну то сядайце калі ласка. Можа, вам соку наліць?

— Соку, бадай, вып'ю, — згадзілася Ірына.

Халодны ананасны напой канчаткова астудзіў яе гнеў, і яна ўжо спакойна стала распытваць у жанчын пра дачу, пра яе гаспадароў. Жанчыны былі з суседняй, за возерам, вёскі. Даўно ведаюць Арнольда, ячшэ калі ён прыязджаў сюды са сваёй першай жонкай. Хвайная была кабета, не раўня гэтай...

Тут жанчына, якая расказвала, асеклася і спалохана паглядзела на Ірыну.

— Не бойцеся... — усміхнулася яна. — Я тут чужая. Аказалася выпадкова...

— Разумеем, разумеем... Апошнім часам тут часта незнаёмыя дзяўчаты бываюць. Толькі ж нешта вы непадобныя да іх. Тыя заўсёды п'яныя, нахабныя...

— Даруйце, а гэты Арнольд, хто ён?

— А скульптар ён. Тут у яго і свая майстэрня цяпер, і кватэра. Пасля таго як ён нешта не паладзіў з жонкаю, пераехаў сюды жыць насаўсім. Заняўся гэтым... як яго?.. бізнесам. Помнікі робіць, фігуркі розныя для дачаў. Казаў, што гэтыя фігуркі вельмі ж добра купляюць у Германіі. А чалавек ён неблагі. Каб толькі яго не сапсавалі гэтыя дурныя грошы. Ледзь не штодня п'янкі. Маладая жонка відаць што не прывучаная да кухні, дык ён нас вось наймае.

Жанчыны сталі бедаваць, што ў вёсцы цяпер цяжка жыць — плацяць мала ды і тое не заўсёды... Даводзіцца падрабляць у дачнікаў. А гэтыя во шыкуюць. Якія дачы, машыны, гулянкі!..

За ціхай няспешнай бясецай не заўважылі, як развіднела. Жанчыны пачалі завіхацца ля пліты, гатаваць сняданак.

На кухню прыцёгся заспанаапухлы, растрапаны Карлуша, доўга, са смакам, з крэктам піў з халадзільніка піва.

Скарыстаўшы момант, калі жанчыны бегалі-мітусіліся вакол немца, Ірына паднялася наверх, у пакой, зачынілася на зашчапку, закуталася ў плед, прылегла на ложак і імгненна заснула.

Калі прачнулася, было ўжо апоўдні. Праз акно ярка свяціла сонца. А ў доме чамусьці стаяла гнятлівая цішыня.

На кухні па-ранейшаму завіхаліся тыя самыя жанчыны.

— А дзе ж... астатнія? — здзівілася Ірына.

— А яны вось паснедалі і паехалі на тройцы катацца.

— На якой тройцы?

Аказваецца, тутэйшы старшыня калгаса, улавіўшы настрой новых беларусаў, арганізаваў платныя прагулкі па заснежаным лесе на вазку, запрэжаным, як калісьці, тройкай коней. І на гэтым зарабляе немалыя грошы.

Навіна пра лясную прагулку непрыемна кальнула Ірыну. Паехалі, не пазвалі... Знарок, каб паказаць ёй сваю пагарду.

Божа мой! Ды ёй і непатрэбна іхняя ласка. Чаго ёй зараз больш за ўсё хацелася б, дык гэта апынуцца дома, у сваім утульным пакойчыку, сярод сваіх любімых кніг. І навошта яна згадзілася на гэту паездку? Каб атрымаць яшчэ адно балючае расчараванне? Дурніца яна, дурніца...

Неўзабаве ўся кампанія шумна ўвалілася ў дом, атрасаючы з шапак снег, паціраючы расчырванелыя шчокі. Наташа, убачыўшы на кухні Ірыну, злосна бліснула на яе вачыма і, не разнімаючы вуснаў, прашыпела:

— Ну ты, Мадлен, і ўчудзіла!..

Ірына не стала ні апраўдвацца, ні высвятляць адносіны. Адно толькі спытала:

— А цяпер я магу ехаць дадому?

— Можаш. На ўсе чатыры бакі!

У пярэднім пакоі, куды яна пайшла апранацца, сутыкнулася з Мішэлем. Той, перакідваючы цыгарэту з аднаго кутка губ у другі, працадзіў:

— Ну што, каралева, сапсавала чалавеку свята — і цягу?

Ірына падняла галаву, хацела сказаць, што яна яшчэ дастаткова паважае сябе, каб з першай сустрэчы лажыцца ў пасцель з зусім незнаёмым чалавекам, хацела нават папрасіць прабачэння, але, убачыўшы твар Мішэля, знямела. Бог ты мой, куды падзелася тая ўчарашняя шырокая, праменістая, саладжава-спакуслівая ўсмешка! На яе глядзеў — нават не глядзеў, а працінаў калючым, злым позіркам зусім іншы мужчына — паніжэлы ростам, з непрыгожым, перакошаным тварам.

Сплюнуўшы на падлогу цыгарэту, Мішэль холадна-жорстка сказаў:

— Маўчыш... Корчыш з сябе немаведама што! Як быццам ты з мужчынамі не спала. Як быццам табе васемнаццаць. Дый у васемнаццаць цяпер так не ламаюцца. Ідыётка! Якога хрэна тады згаджалася, ехала? Выпіць да закусіць на халяву?

Ірыну бы выцялі па твары. Не помнячы сябе, яна схапіла паліто ў ахапак і выскачыла на двор. Весніцы, на шчасце, былі незамкнёныя, і яна выбегла на дарогу, у лес. І толькі тут, на вольным, марозным паветры, перавяла дух. Было такое адчуванне, нібыта яна вырвалася з учэпістых, страшных сківаў бультэр'ера.

Апрануўшы паліто, Ірына ледзь не подбегам рушыла па дарозе, абапал якой стаялі высокія заснежаныя дрэвы, якіх яна цяпер не заўважала. Яе цікавіла адно: недзе там, наперадзе, павінна быць шаша, з якой яны ўчора сюды звярнулі. Ішла, раз-пораз аглядваючыся, — ёй усё здавалася, што следам бягуць нячутна-маўклівыя бультэр'еры з ашчэранымі пашчамі.

І толькі калі нарэшце пачуўся гул машын і з-за дрэў зачарнела асфальтавая стужка, Ірына спынілася, абяссілена прыхінулася плечуком да шурпатага ствала сасны. Віхура пачуццяў — крыўды, сораму, злосці на самую сябе за тое, што згадзілася на гэту праклятую паездку, бездапаможнасці і бяссілля хоць чым-небудзь адказаць на атрыманую знявагу — пачуцці гэтыя разам нахлынулі на яе, балюча рвалі душу, і яна не стрымалася — заплакала. Горка, няўцешна, наўзрыд...

СПОРТ

## Стабільна адстаючыя

*У славенскім горадзе Паклюке распачаўся чарговы этап Кубка свету па біятлоне.*

У жаночай спрынтэрскай гонцы на 7,5 км нашы страляючыя лыжніцы, як кажуць, зорак з неба не хапалі. Лепшы вынік сярод беларускіх біятланістак паказала Алена Зубрылава — у яе толькі 14-е месца. Астатнія нашы спартсменкі фінішыравалі ў такім парадку: Кацярына Іванова — 20-я, Людміла Ананька — 41-я, Вольга Назарава — 48-я, Ксенія Зікункова — 56-я і Наталля Агурцова — 75-я.

## «Шахцёр» сюды, «Шахцёр» туды...

*Лепшы футбаліст чэмпіянату Беларусі 2003 года Цімафей Калачоў, які да гэтага гуляў за салігорскі "Шахцёр", падпісаў пяцігадовы кантракт з другім "Шахцёрам" — данецкім...*

Аб гэтым паведаміла прэс-служба ўкраінскай каманды, хоць аб суме кантракта і не паведамляецца.

Дарэчы, Цімафей Калачоў згуляе за маладзёжную зборную Беларусі ў турніры чатырох зборных у Партугаліі, які пройдзе з 15 па 22 студзеня.

## Ці падтрымаюць юнакі «маладзёжку»?

*Сталі вядомы даты правядзення матчаў другога кваліфікацыйнага этапа чэмпіянату Еўропы сярод юнакоў (да 17 гадоў).*

28 зборных паспрачаюцца за сем застаўшыхся пуцёвак у фінальную стадыю турніру. Каманды разбіты на сем груп, і ў фінал выйдуць толькі пераможцы.

З 27 па 31 сакавіка наша зборная будзе гуляць з камандамі Бельгіі, Паўночнай Ірландыі і Шатландыі.

## На хлеб хопіць...

*Нямецкае агенцтва SID распаўсюдзіла спіс дзесяці самых багатых спартсменаў 2003 года (у дужках — сума ў мільёнах амерыканскіх долараў, якую атрымліваюць спартсмены за год):*

1. Тайгер Вудс, ЗША, гольф (100) — на фота;
2. Міхаэль Шумахер, Германія, Формула-1 (62);
3. Дэвід Бекхэм, Англія, футбол (35,2);
4. Оскар дэ ла Хойя, ЗША, бокс (32);
5. Рой Джонс-малодшы, ЗША, бокс (26);
6. Кевін Гарнет, ЗША, баскетбол (25,2);
7. Шакіл О'Ніл, ЗША, баскетбол (23,6);
8. Серэна Уільямс, ЗША, тэніс (22,5);
9. Алекс Радрыгес, ЗША, бейсбол (22);
10. Майкл Джордан, ЗША, баскетбол (21,5).



**Алесь СІВЫ, Беларусь, журналістыка...**

ВІНШУЕМ!

## Былы віцебскі малец скарыў Монтэ-Карла

*Зоркай сусветнай эстрады вярнуўся ў родны Віцебск напярэдадні Новага года пасля 14-гадовай адсутнасці Віталь Гарбачэўскі, які нядаўна заваяваў Гран-пры на Міжнародным конкурсе магаў у Монтэ-Карла (Манака).*

Шлях да бліскучай перамогі ў спаборніцтве прафесійных фокуснікаў быў для ўраджэнца Віцебска доўгім і нялёгкім. Адметнымі вехамі на гэтым шляху сталі напружаныя заняткі спортам, Віцебская студыя юных фокуснікаў пад кіраўніцтвам Сяргея Фельдмана, Кіеўскае вучылішча эстраднага і цыркавога мастацтва, якое Віталь скончыў у 1993 годзе, стаўшы майстрам арыгінальнага жанру і атрымаўшы пастаянную працу ў сталіцы Украіны, дзе з тае пары і жыве. Разам са сваёй жонкай і асістэнткай Аленай Віталь падрыхтаваў складаны нумар для выступлення ў Монтэ-Карла, дзе фокус Гарбачэўскага быў прызнаны лепшым. Сямейная пара атрымала прыз у выглядзе бронзавых рук, якія трымаюць залатую чароўную палачку. Пасля гэтага трыумфу супругі Гарбачэўскія доўгі час працавалі ў самым вядомым казіно Монтэ-Карла, а затым вярнуліся ў Кіеў, адкуль 30-гадовы фокуснік з сусветным імем і зрабіў перадсвяточнае падарожжа ў горад свайго юнацтва, дзе, зразумела, ніхто нават не чуў аб грандыёзным поспеху свайго земляка, у недалёкім мінулым — звычайнага віцебскага мальца.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Крыжаванка

## «Духоўны скарб Беларусі»

**Па гарызанталі:** 2.Аўтар зборніка "Песні на загонах". 5.Даследаванні Мікалая Нікіфароўскага "Простанародныя прыкметы і павер'і, забабоны і звычаі, легендарныя... аб асобах і месцах". 11.Хросная маці ў адносінах да бацькоў хросніка. 12.Маёнтак, дзе нарадзіўся вядомы мастак Сяргей Заранка. 13.Акцёр Коласаўскага тэатра — народны артыст БССР. 14.Вёска ў Мінскім павеце Вялікага княства Літоўскага, якая належала Кавячынскім, Завішам. 17.Імя Пінігіна, рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля "Тутэйшыя". 21.Беларускі народны танец, у якім выканаўцы пад прыпеўкі ствараюць зігзагападобныя фігуры. 23.Агульнае імя барацьбітоў за незалежнасць Беларусі, якія вывешваюць бел-чырвона-белыя сцягі ў небяспечных кропках. 24.Палатно Гаўрылы Вашчанкі "Леў ...". 25.Багаты нюансамі голас Віктара Чарнабаева. 26."І тут жа травы розныя: валяр'ян, цыкута, святаяннік, а за імі, зусім у вадзе, — трысцё, ... кіёўкі" (Уладзімір Дубоўка). 27.Беларускі народны танец, разнавіднасць полькі. 29."У тых нейкія цяжкавозы, а ў нашых вараныя ..." (Іван Шамякін). 31.Аляксандр Мядзведзь — славуты беларускі ... 34."А дождажык ... ды ..." (Еўдакія Лось). 35.Аўтар оперы "Тарас на Парнасе". 36.Хто наказваў Язэпу Драздовічу: "Вучыся і спазнай "Нябесныя бегі"? 38.Імя гарадзенскага старасты, абаронцы роднай зямлі ў барацьбе з крыжакамі. 40.Спёка. 41."Рабіна надзела ... і стала ля самай дарогі" (Канстанцыя Буйло). 43."Старана ... старадаўняя" (Язэп Драздовіч). 45.Як ласкава ў дзяцінстве называлі спявачку Дарафееву? 47."Гэтак жа, мусіць, цяпер жывуць і паміраюць там, адкуль даносяцца аж сюды ... і плач гаротнага народа" (Міхась Чарот). 48.Імя лепшай спявачкі Беларусі 2002 года. 49.Дойлід другой паловы XIII стагоддзя, які заклаў крэпасць Камянец. 50.Дапамога Пасольства ЗША ў Беларусі на аднаўленне сядзібы Тадэвуша Касцюшкі. 52.Пісьменнік са Случчыны. 53.Мястэчка Полацкага ваяводства Вялікага княства Літоўскага, якое мела Магдэбургскае права. 54.Міжнародная арганізацыя дзяржаў, куды ўваходзіць Беларусь. 56.Вялікі драўляны малаток рознай формы (абл.) 59.Часопіс філаматаў. 60.Песня дуэта "Аляксандра і Канстанцін" — лаўрэат міжнароднага конкурсу. 61."Вядзе іх ляснічы праз дзікі гушчар, ідуць партызаны, рыхтуюць ..." (Якуб Колас). 64.Імя аўтара першай дакладнай геаграфічнай выграўраванай карты Вялікага княства Літоўскага. 65.Работа скульптара Аляксея Глебава.

**Па вертыкалі:** 1.Месціч, які займаўся саматужным вырабам. 3.Незалежнасць. 4.Імя акадэміка, аднаго з найакціўнейшых змагароў сучаснасці за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. 6.Выдавец, які заслужыў імя "віленскага Альда". 7.Адна з лепшых роляў Марыі Захарэвіч. 8.Унучка Рагнеды, жонка караля нарвежскага Гаральда III. 15.Найстарэйшая каталіцкая святыня ў Беларусі... Вітаўта. 16.Аўтар лібрэта аперэты "Тыдзень вечнай любві". 18.Якое мастацтва праслаўляе Юрый Хашчавацкі? 19.Горад, дзе друкаваў кнігі Ян Карчан? 20.Імя знакамітага сучаснага адваката. 22.Выраз для шыі ў адзенні. 24.Пятніца перад Іллёй. 28.Аблога крэпасці. 30.Вялікі князь літоўскі, час панавання якога ўспамінаюць як залатую пару нашай гісторыі. 32."Калі выйшаў вінны ... Ной устаў, судзіць пачаў" (Кандрат Крапіва). 33.Калектыўная дапамога пры выкананні сельскагаспадарчых работ сялянамі. 37.Правілы паводзін людзей у адносінах паміж сабой. 39.Імя праслаўленага дудара Ляся. 42.Папулярная спявачка. 43.Балет Яўгена Глебава. 44."На небе было ..." (Чарнышэвіч). 46.Іва Залускі ў адносінах да М.К.Агінскага. 50.Хто друкаваўся ў газеце-плакаце "Раздавім фашысцкую гадзіну" пад псеўданімам Язэп Касіла? 51.Надзвычайная прыродная вайсковая здольнасць Януша Радзівіла. 57.Беларускі народны танец — ..."Заяц". 58.Помнік мастацтва XIX стагоддзя ў вёсцы Кісцень Рагачоўскага раёна.

**У шматвугольніку супраць руху гадзіннікавай стрэлкі:** 9.Паэт XVI стагоддзя.

**У шматвугольніку па руху гадзіннікавай стрэлкі:** 10.Мастацкі летапісец жыцця беларусаў.

**Чайнворды:** 55.Прыдумшчык "маўчанкі" — хвіліны маўчання па зачыненых недзяржаўных арганізацыях. 56.Царкоўнае хрысціянскае свята Нараджэння Хрыста. 62.Імя спевака Вуячыча. 63.Ананія як майстар мастацтва. 66.Лаўрэат трох міжнародных прэмій у галіне абароны правоў чалавека. 67.Карціна Язэпа Драздовіча "Пагоня — ...". 68.Адзін з вобразаў оперы Яўгена Цікоцкага "Міхась Падгорны".

**Склала Ала ГРУШЭЎСКАЯ.**

## Адказы на чайнворд, надрукаваны ў №242 за мінулы год

1.Зябер. 2.Рабін. 3.Начоўкі. 4.Імбрычак. 5.Кнораз. 6.Зарэз. 7.Зух. 8.Хцівец. 9.Ціск. 10.Козыт. 11.Таўкач. 12.Чалеснікі. 13.Імпэт. 14.Трайня. 15.Ялавічына. 16.Аплявуха. 17.Агародніна. 18.Адбудова. 19.Асалода. 20.Ахоп. 21.Павал. 22.Ліхвяр. 23.Ручайка. 24.Агіда. 25.Адбівальнік. 26.Карак. 27.Кідальнік. 28.Кірунак. 29.Коршак. 30.Крываўнік. 31.Краявід. 32.Даследчык. 33.Капеж. 34.Журавіны.

ЧП!

# Труп под окном

О том, что случилось в столичном исправительном учреждении открытого типа N2, где отбывают наказание так называемые "химики", теперь говорит полгорода.

30 декабря на утренней проверке заместитель начальника данного учреждения майор милиции Л.Е.Ванькевич сказал, что в кругу семьи Новый год отметят те, у кого нет нарушений, и те, кто состоит в секциях (например, в культурно-массовой, спортивной и т.д.). Конечно, входящие в этот перечень воспряли духом — Новый год-то будут отмечать дома, а не в "общежитии".

Один из осужденных по фамилии Лаптенок, бывший коммерсант, у которого имеется свой магазин, машина, семья, ребенок, состоявший в Учреждении на хорошем счету, имел полное право рассчитывать на новогодний "отпуск". Вечером того же дня он подошел к другому заместителю начальника — майору Ф.К.Надумовичу — с просьбой отпустить его домой, как было обещано майором Ванькевичем. Надумович же, решив, наверное, показать, "кто в доме хозяин", вышел из кабинета, возле которого стояло еще много "страждущих", и сказал во всеуслышание, что, мол, кому вы дома нужны, никто вас там не ждет. Стало быть, домой никто не пойдет...

Ситуация прямо как в кино. Помните, герой Юрского в фильме "Место встречи изменить нельзя" говорил: если один начальник плохой, то другой — обязательно добрый. Странное, в общем-то, заявление, учитывая, что и в непраздничные дни могут отпустить домой на выходные, если родственники напишут заявление с такой просьбой. А тут все-таки праздник!

Лаптенок все же не терял надежды: то просил у дежурного разрешить позвонить в неположенное время (после 21.00 там отключаются телефоны), то снова подходил с просьбами отпустить его, но все его мольбы не были услышаны. Проживающие с ним в одной комнате сказали, что мужчина не мог успокоиться еще часов до трех ночи, видно, что-то дома у него случилось и ему срочно нужно было туда попасть.

В итоге 31 декабря, примерно часов в пять утра, кто-то проходящий мимо постучал в окно Исправительного учреждения N2, что по улице Фабрициуса, 7/16, и сказал, что под их окнами лежит труп мужчины. Опознать его не составило труда — это был Лаптенок. Никто, конечно же, не знает толком, как он там оказался. Естественно, начальство зашевелилось: еще бы, такое ЧП! И как бы все это представить как самоубийство...

Понятно, точку в этой трагедии ставить рано. Есть вопросы, на которые соответствующие службы должны найти ответы. Я бы подкинула им такой вопрос. Зачем было доводить человека до такого состояния, когда он был готов сбежать через окно к своей семье? Получается, что таким образом у нас в государстве исправляют и воспитывают осужденных. Очень оригинальный способ, конечно. Начальству-то все равно: одним осужденным больше, одним меньше — какая разница? А вот что думают обо всем этом родные и близкие осужденных, представить, мне кажется, не составит труда.

**Наталья ГУСЕВА.**



*Падабаецца зіма дзецям Лепеля, што на Віцебшчыне...*

**Фота ByMedia.net**



КРИМИНАЛ

## Наркоторговцев суд не жалеет

Не унимаются наркоторговцы Гомельщины, предлагая скупщикам и просто потребителям дурмана опасный товар оптом и в розницу. Иногда такие торгаши, зная о суровом наказании за подобные операции, сознательно идут на преступление, прельщаясь выгодой сделки.

Рабочий кирпичного завода в деревне Старое Село Ветковского района 53-летний Василий Соловьев на предложение заезжего покупателя за пять минут подготовил порцию мака и тут же получил семь тысяч "зайчиков". Обменять вырученную сумму на напиток производства местных народных умельцев не успел — "оперы" задержали с поличным. На первый раз районный суд ограничился четырехлетним сроком отсидки деревенского торгаша в исправительной колонии усиленного режима.

А 30-летний разнорабочий подсобного хозяйства ОАО "Светлогорский ЦКК" Юрий Ковальчук не понаслышке знал о строгой ответственности за подобные сделки — дважды (!) был судим за незаконный оборот наркотических средств. Сотрудники местного райотдела внутренних дел задержали его в момент продажи наполненных ацетиллированным опием одноразовых шприцев в подъезде многоэтажки в третьем микрорайоне Светлогорска.

Районный суд с неисправимым наркодилером особо не церемонился — восемь лет строгой изоляции от общества и бесполезность ожидания предстоящей амнистии тому гарантированы.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

## Пятница, 9 января

### БТ

**07.00, 08.00, 10.00, 09.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!".
**08.45, 14.40, 23.45** "Моя страна".
**09.10** "Время сеять, время убирать". Сериал.
**10.05** Сериал **"Воскрешая мертвых".**
**11.05** Док.фильм "Корнак".
**12.15** Боевик **"Братья по разуму".**
**14.05** "На перекрёстках Европы".
**14.55** Хоккей. "Северсталь" (Россия) — "Керамин-Минск".
**17.20** "5х5".
**18.05** Сериал **"Воскрешая мертвых".**
**19.05** Драма **"Ищите женщину".**
**21.00** Панорама.
**21.45** Специальный репортаж.
**22.00** Мелодрама **"С Новым годом, Москва".**

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.00** Наши новости.
**08.05** "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**10.35** Ералаш.
**11.05** Дисней-клуб.
**14.50** "Город женщин".
**15.45** "Угадай мелодию".
**16.10** Сериал **"Берег мечты".**
**17.00** "Большая стирка".
**18.15** "Без срока давности".
**18.40** Смехопанорама.
**19.10 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**20.00** Время.
**21.00** "Поле чудес".
**22.00, 23.15** "Фабрика звезд".

### РОССИЯ

**07.45** Фильм **"Зимняя вишня-3".**
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** Мусульмане.
**11.00** Вся Россия.
**11.15** Москва-Минск.
**11.30** Колоссальное хозяйство.
**11.45** Сериал **"Смотрящий вниз".**
**12.45** Вести. Дежурная часть.
**13.10, 15.40** Местное время. Вести-Москва.
**13.30** Сериал **"Следствие ведут Знатоки".**
**15.25, 18.50** Вести. Дежурная часть.
**16.10** Сериал **"Следствие ведут Знатоки".**
**17.50** Сериал **"Подружка осень".**
**19.30** Местное время. Вести-Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Комедия **"Гений".**
**22.50** Боевик **"Киборг".**
**00.25** Фильм **"Большой бизнес".**
**02.25** Дорожный патруль.
**02.40** Сериал **"Ангелы Чарли".**
**03.25** Канал "Евроньюс".
**04.00** Доброе утро, Россия!

### ЛАД

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.35** Футбол. Чемпионат Италии.
**09.40** "Свет далекой звезды. Иван Рей".
**10.10** "Между нами, женщинами".
**10.30** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.20, 13.20** Семейный канал.
**11.50** Биографический фильм "Пирогов". Ленфильм.
**13.50** "Три лягушонка". Мультфильм.
**14.10** "Время кино".
**15.05** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.15** "Учительская".
**15.30** Телеспектакль "Следственный эксперимент".
**16.05** Драма **"Кафедра".**
**18.20** "Между нами, женщинами".
**18.40** Сериал **"В поисках капитана Гранта".**
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**22.05** Сериал **"Развязка петербургских тайн".**

### НТВ

05.20 Боевик **"Роковая красотка".**
**07.00, 09.00, 11.00, 14.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**07.30** Мультсериал "Маугли".
**07.50** Просто цирк.
**08.25** Такая жизнь?
**09.25** "Их нравы".
**10.15, 23.30** "Стиль от...".
**10.25** Про дизайн.
**11.30** Женский взгляд.
**12.05** Комедия **"Из джунглей в джунгли".**
**14.30** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.30** Петербург от А до Я.
**18.35** Детектив **"Убийство в Восточном экспрессе".**
**21.05** Фильм **"Дарэмский бык".**
**23.05** Ночные музы.
**23.45** Такая жизнь?
**00.15** Ночная афиша.
**00.25** Сериал **"За гранью возможного".**

### СТВ+RenTV

**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.05** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.15** "Минск и минчане".
**08.30** "Технология".
**08.40 "Двойная рокировка".** Боевик.
**10.20** "Автопанорама".
**10.40** "Театральные истории".
**10.55** "Из забвения и праха. Иоанн Григорович". Док.фильм.
**11.35** "Ретро-шлягер".
**12.35** "Дикая планета".
**13.50 "Частный детектив, или Операция "Кооперация".** Комедия.
**15.25 "Игрушки".** Док.фильм.
**16.15** "Тема дня".
**16.50 "Отцы и деды".** Комедия.
**18.05** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.20** "Светская хроника".
**18.30** "Дятлоw''s". Мультсериал.
**19.00** "Дикая планета".
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Минск и минчане".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55 "Крестный сын".** Комедия.
**23.05** "Технология".
**23.15** "Реактивный бокс".
**23.40** "Новости СНГ".
**23.55 "Значок шерифа".** Остросюжетный фильм.

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Комедия **"Здравствуйте, я ваша тетя!"**
**19.40** К-видео "Топ-8".
**19.45** Сериал **"Влюбленный д'Артаньян".**
20.45 "Вечарніца".
**21.00** Региональный репортаж
**21.10** Фантастическая комедия **"Супербратья Марио".**

### ТВ ЦЕНТР

**07.45 "Без семьи".** Худ.фильм, 2-я серия.
**09.40** Европейские ворота России.
**09.50** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00, 23.00** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.15** Караоке стрит.
**11.30** Наша версия.
**12.10** "Олений город".
**12.30** Деловая Москва.
**13.15** Мультфильмы.
**13.55** Ступеньки.
**14.30** 21 кабинет.
**15.00** Регионы. прямая речь.
**15.30** Каля-маля.
**16.00 "Комиссар Мулен".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**17.40** "Два жадных медвежонка". Мультфильм.
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.40** Телемагазин.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**18.55 "Наследницы".** Худ.фильм.
**21.40** "Народ хочет знать".
**22.30** Времечко.
**23.20** Серебряный диск.
**23.40 "Хищная птица".** Худ.фильм.
**01.20** Мода non-stop.
**04.45** "Настроение".

### EUROSPORT

**09.30** Ралли.
**10.00** Экстремальные виды спорта.
**10.30** Фристайл.
**11.00** Биатлон.
**12.30** Ралли.
**13.00** Бокс.
**14.30** Волейбол.
**16.30** Биатлон.
**17.00** Волейбол.
**19.00** Теннис.
**20.00** Волейбол.
**22.00** Пауэрлифтинг.
**23.00** Биатлон.
**23.30** Ралли.
**00.00** Скиеркросс.
**00.45** Экстремальные виды спорта.
**01.45** Ралли.

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

Рэдактар нумара Алесь ДРАБЧУК



Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Красная звезда", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 500 экз. Заказ № 562.